**№82 (1645)**
Аўторак, 13 мая 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння чакаецца ўдзень — +25...+27, уначы — +15...+17, магчыма навальніца; у Брэсце ўдзень — +26...+28, увечары магчыма навальніца, уначы — +16...+18; у Гродне ўдзень — +23...+25, уначы — +16...+18, дождж; у Віцебску ўдзень — +20...+22, уначы — +13...+15; у Гомелі ўдзень — +24...+26, уначы — +17...+19; у Магілёве ўдзень — +24...+26, уначы — +15...+17.

www.meteo.by



ГРОМКАЯ ТЕМА

## «Захаренко для них опасен даже мертвый»

*В канун четвертой годовщины исчезновения экс-министра внутренних дел Беларуси Юрия Захаренко некоторые депутаты Палаты представителей вошли в состав общественной комиссии, которая намеревается способствовать расследованию уголовных дел Захаренко, Гончара, Красовского и Завадского.*

Кроме парламентариев в состав комиссии вошли супруга Виктора Гончара **Зинаида**, руководитель организации "Правовая помощь населению" **Олег Волчек**, заместитель председателя Белорусского Хельсинкского комитета, известный адвокат **Гарри Погоняйло**, бывший сотрудник Витебского УВД **Владимир Арестов** и экс-командир бригады спецназа **Владимир Бородач**.

Член депутатской группы "Республика" генерал **Валерий Фролов** убежден, что такой состав комиссии поможет добиться конкретных результатов.

*"Сегодня, к сожалению, как только речь заходит о расследовании исчезновений известных людей, многие чиновники просто молча опускают глаза, — говорит Валерий Дмитриевич. — Ответа на четко сформулированный вопрос от них добиться невозможно. Думаю, что создание этой комиссии поможет получить ответ практически на любой вопрос, потому что официальные депутатские запросы по закону не могут оставаться без ответа.*

*В свое время у многих депутатов Палаты представителей не было желания помочь прояснить ситуацию с пропавшими. В последующем Палата все-таки проголосовала за депутатский запрос генеральному прокурору. Виктор Шейман прислал ответ, в результате которого вопросов возникло еще больше, чем было...*

*В феврале мы отправили депутатское обращение председателю КГБ. Оно до сих пор без ответа...*



*Теперь я подготовил письмо Лукашенко. Власть, если она не замешана в исчезновениях этих людей, должна быть заинтересована в расследовании громких дел".*

По словам **Олега Волчека**, нынешняя власть абсолютно не заинтересована в расследовании громких дел. ***"Захаренко для них опасен даже мертвый"***, — сказал он.

По словам Волчека, есть люди, которые готовы платить любые деньги за информацию по делам Захаренко, Гончара, Красовского и Завадского. Недавно, например, к ним обратились те, кто якобы располагает некой видеоинформацией по громким делам.

Вполне вероятно, что речь идет о тех самых видеокассетах, о которых в одном из своих последних интервью говорил бывший начальник СИЗО №1 **Олег Алкаев.** Кстати, Олег Алкаев уже давно живет в Германии в одном доме с **Ольгой Борисовной,** женой Юрия Захаренко. *"Однако за все это время они практически не общались, хотя живут на соседних этажах,* — говорит Волчек, недавно побывавший в гостях у супруги Захаренко.

Не правда ли, странно?..

Адвокат **Гарри Погоняйло** считает, что в Беларуси имели место внесудебные казни. Гарри Петрович намеревается воспользоваться законами некоторых европейских стран, которые позволяют начать судебное преследование высокопоставленных чиновников, подозреваемых таких серьезных преступлениях, как исчезновение Захаренко, Гончара, Красовского и Завадского.

*"Сегодня мы вплотную занимаемся этим вопросом,* — говорит Погоняйло. — *Если в одной из европейских стран будет возбуждено подобное уголовное дело, то некоторые белорусские чиновники при выезде за границу могут быть задержаны, арестованы и подвергнуты суду".*

И еще. Недавно был найден архив генерала Захаренко, содержащий документы и записки, датированные с 1991 по 1999 год. **Владимир Арестов** — человек, который одним из последних видел Захаренко в день его исчезновения, полагает, что там есть ответы на многие вопросы...

**Марина КОКТЫШ.**

ПУЛЬС

### Дэпутата давялі да самагубства?

Пракуратура Ленінскага раёна Гродна ўзбудзіла крымінальную справу па факце смерці дэпутата Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў Андрэя Маеўскага.

Нагадаем, што 22 красавіка пасля размовы з супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Андрэй Маеўскі выкінуўся з 4-га паверха будынка Упраўлення ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама. Ад атрыманых цялесных пашкоджанняў дэпутат загінуў на месцы.

Пасля смерці Маеўскага Гродзенская абласная пракуратура ўзбудзіла ў дачыненні да яго крымінальную справу па артыкуле "хабарніцтва". Згодна з інфармацыяй, распаўсюджанай прэс-службай УУС Гродзенскага аблвыканкама, крымінальная справа звязана з прафесійнай дзейнасцю дэпутата. Андрэй Маеўскі працаваў галоўным энергетыкам Лідскага малочна-кансервавага завода і яго падазравалі ў атрыманні хабару ў памеры 31 тысячы долараў ад прадстаўнікоў адной з будаўнічых фірм.

Адначасова пракуратура Ленінскага раёна Гродна распачала праверку па факце смерці дэпутата. Як паведаміў "Народнай волі" следчы пракуратуры Ленінскага раёна Уладзімір Шышко, па факце смерці Андрэя Маеўскага ім была ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле 145 Крмінальнага кодэкса — "давядзенне да самагубства". Аднак паведаміць нейкія падрабязнасці следчы адмовіўся, спасылаючыся на таямніцу следства.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

### Купалле ў Нью-Йорку

Беларусы Нью-Йорка будуць святкаваць Купалле з 27 па 29 чэрвеня гэтага года.

Разам адзначыць Купалле і правесці тры дні на прыродзе прадстаўнікоў беларускай эміграцыі заклікала "Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА) — найбольш уплывовая арганізацыя беларускіх эмігрантаў у Злучаных Штатах Амерыкі.

Мяркуецца, што святкаванне пройдзе ў мясціне Уард-Раўнд-Рыдж у Крос-Рывэр (Нью-Йорк) — гэты куток прыроды знаходзіцца ў 45 хвілінах язды ад Манхэтана.

**Аляксей ШЭІН.**

### У нелегалаў з Кітая віруса атыповай пнеўманіі не выяўлена

Яшчэ ўвечары 7 мая на ўчастку Пінскага пагранічнага атрада была затрымана група нелегальных мігрантаў з Кітая — усяго 16 чалавек, у якіх не было пры сабе ніякіх дакументаў.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў, які прытрымаў гэтую інфармацыю да заканчэння разбору, іншаземцы, паводле іх слоў, прыбылі невялікімі групамі з Кітая ў Маскву, а потым былі перавезены на дзвюх легкавых машынах у Беларусь, да мяжы з Украінай. Трапіць у суседнюю краіну яны меліся ўсе разам на джыпе. Усе затрыманыя — жыхары правінцыі Фуцзянь ва ўзросце ад 18 да 38 гадоў.

Разбор з іншаземцамі цягнуўся на працягу некалькіх дзён. Увесь гэты час затрыманыя знаходзіліся ў пагранічнай камендатуры, а медыкі Маларыцкай раённай бальніцы абследавалі іх на прадмет выяўлення віруса атыповай пнеўманіі. Як запэўнілі ў прэс-цэнтры Дзяржкамітэта пагранвойскаў Беларусі, сярод гэтай групы іншаземцаў заражаных смяротнай хваробай не выяўлена. 12 мая кітайцаў перададуць органам унутраных спраў для дэпартацыі за межы краіны.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

### Брыгада «Клопат» дбае пра сялян

Не з рыдлёўкамі ў спрацаваных руках і не за плугам з адной конскай сілай, а з дапамогай трактара вядуць майскія палявыя работы жыхары вёсак Студзёнаўскага сельскага Савета Талачынскага раёна.

Па ініцыятыве мясцовых улад тут створана гасразліковая механізаваная брыгада "Клопат", якая за ўмераную плату, дастатковую для аплаты гаручага і працы механізатараў, апрацоўвае зямельныя ўчасткі ўсім, каму цяжка справіцца з гэтым самастойна.

Паслугі членаў брыгады не патрабуюць і традыцыйнай "вадкай валюты", што асабліва вітаецца жыхарамі вёсак, у якіх няма магазінаў, а шлях да райцэнтра не блізкі.

**Максім АРХІПАЎ.**

### Выстава ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі «MILEX-2003»

У другой міжнароднай выставе ўзбраенняў і ваеннай тэхнікі "MILEX-2003", якая пройдзе 13-16 мая ў Мінску, возьмуць удзел каля 130 прадпрыемстваў, фірмаў, канструктарскіх бюро, навукова-даследчых інстытутаў, вышэйшых навучальных устаноў, гандлёвых арганізацый з сямі краін.

Акрамя распрацовак беларускага ваенна-прамысловага комплексу, наведвальнікі выставы ўбачаць дасягненні ў гэтай галіне ВПК Расіі, Украіны, Славакіі, Польшчы, Малдовы і Украіны.

З беларускага боку ў выставе возьмуць удзел ДНВА "Агат", БелОМА, ААТ "Пеленг", НВА "Інтэграл", Мінскі завод колавых цягачоў, РУП "140-ы рамонтны завод", РУП "558-ы авіяцыйны рамонтны завод", РУП "2566-ы завод па рамонце радыёэлектроннага ўзбраення", прадпрыемствы "Мінатор-Сэрвіс", "Тэтраэдр", канцэрн "Планар", ЗАТ "Белтэхэкспарт", якое з'яўляецца генеральным спонсарам "MILEX-2003", дзяржаўнае знешнегандлёвае унітарнае прадпрыемства "Белзнешпрамсэрвіс" і іншыя.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

ЛИЧНЫЙ ВЗГЛЯД

## Лукашенко примеряет парадный мундир 45-го года?

*День Победы неизменно вдохновляет белорусского руководителя. Его речи экспрессивны и зажигательны. Другой вопрос, во имя чего этот пафос. Ветераны, которым адресуется дежурный набор благодарственных фраз, вряд ли догадываются, что лишь играют массовку. А в принципе, тема великой Победы используется сугубо для пропагандистского обслуживания нынешней власти.*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Наглядный пример — выступление главы государства 8 мая на заседании оргкомитета по подготовке и проведению празднования 60-й годовщины освобождения Беларуси. Мы наблюдали плавный переход от традиционного реверанса перед "скромными героями войны" до высочайшего повеления: не трогать Сталина! *"Перестаньте,* — прозвучало с металлом в голосе, — *клеймить руководителей страны тех времен, начиная от руководителя главного нашего — Сталина!"*. Далее последовала изумительная аргументация в пользу неприкосновенности мифов сталинской эпохи: *"Нас в то время не было, и мы не знаем, как было на самом деле. Я только могу предполагать, занимая примерно аналогичную должность, как это всегда делается".*

Видимо, кому-то очень хочется, чтобы новые поколения жили в плену старых мифов. Но правда истории все равно вылезает как шило из ветхого пропагандистского мешка. Есть архивы, есть расстрельные резолюции вождей на длинных списках фамилий, есть катастрофическая статистика.

И коль уж действительно руководствоваться принципом *"ничто не забыто"*, как призывает белорусский президент, то прежде всего надо сказать о страшной цене великой победы. О том, в частности, что с благословения *"руководителя главного нашего"* перед войной был истреблен цвет командирского корпуса Красной армии. И мы все-таки ЗНАЕМ, КАК БЫЛО НА САМОМ ДЕЛЕ. Этого не скрывала даже сталинская пропаганда, призывая расстреливать "врагов народа" как "бешеных собак". Разве не доподлинно известно, например, что тогда поставили к стенке трех из пяти первых маршалов — Блюхера, Егорова и Тухачевского? Документально доказана и такая цифра: из 186 командиров дивизий после чисток 1937-1938 годов уцелели только 32. И все это стало не последней причиной того, что Красная армия в 41-м откатилась до самой Москвы, а миллионы бойцов попали в плен. Да и потом, когда в войне наступил перелом, исход многих операций решало не столько полководческое искусство, сколько пушечное мясо, коего не жалели нимало — приказывая, например, взять Киев непременно к революционному празднику 7 ноября.

*"Сейчас предпринимаются попытки со стороны ряда зарубежных государств отнять эту Победу"*, — не забывает про



образ врага Александр Лукашенко. Но если ее, Победу, и отняли, то гораздо раньше. Когда поколение победителей вернулось от стен рейхстага в сталинский ГУЛАГ. Когда потом мир резко уходил вперед, в эпоху информационного общества, а Советский Союз загнивал и спивался в эпохе кирзовых сапог. И отнял эту Победу не дядя Сэм, а родной казарменно-бюрократический строй.

Да, признал Александр Лукашенко, у *"руководителя главного нашего"* тоже были ошибки. Вот такое деликатное определение. Значит, и Куропаты, и ГУЛАГ можно списать по статье досадных ошибок: лес рубят — щепки летят, как говаривал сам Иосиф Виссарионович.

Между тем даже официальная "Энцыклапедыя гісторыі Беларусі" сообщает, что в период массовых репрессий 1917—1953 годов в республике пострадало свыше 600 тысяч человек, в том числе расстреляно 35 868. Более половины своего состава потеряли тогда белорусский Союз писателей и Академия наук (репрессировано 26 академиков и 6 членов-корреспондентов). В 20—30-е годы из Беларуси выслали — то есть отправили почти на верную гибель в Сибирь — более 250 тысяч крестьян. А то, что жертвы были в массе своей невинными, подтверждается хотя бы тем фактом, что с 1954 по начало 2000 года реабилитировано более 200 тысяч белорусов. И ведь это только с краешку копнули горы дел "врагов народа"!

Сегодня нам пытаются внушить, что этот страшный мартиролог — результат отдельных "ошибок" мудрого "отца народов". Хотя страшные цифры убеждают: это была система. Бесчеловечная система, которая держалась на страхе, на крови.

Ныне официальный Минск, намекая на Америку, пугает мифическим *"новым тоталитаризмом"*, но на деле пытается оправдать тоталитаризм старого советского образца. И не только. Общеизвестны симпатии белорусского руководства к бывшему иракскому диктатору, а теперь вот прозвучали и слова в защиту северокорейского режима, грозящего миру ядерным оружием. Ну почему, почему такой скрежет зубовный вызывает у официального Минска само слово "демократия", зато любая деспотия так мила сердцу наших правителей? Не потому ли, что дает о себе знать некое духовное родство? Не потому ли, что в иных деяниях нынешних белорусских властей так и сквозит сталинский стиль? И вот мы видим, как под маркой великой Победы начинается "отмывание" диктатуры.

8 мая А.Лукашенко велел также издать исторический учебник, *"иллюстрированный, мощный"*, *"который бы компенсировал все проблемы в образовании и в получении достоверных данных"*. Точнее, даже *"два учебника: один для школы (пусть это будут старшие классы) и один для вузов. И ввести обязательный факультатив в школе и в вузах"*. Можно представить, как все это будет преподаваться, если в основу положат тезисы о мудром Сталине. Будет еще один "Краткий курс".

Наивный человек, слушая проникновенные речи по поводу великой Победы, может подумать, что власть всего лишь отдает бескорыстную дань уважения ветеранам. На самом деле власть примазывается к поколению победителей. Чего стоит одна лишь изящная подмена местоимений, это ненавязчивое *"мы"* в устах высшего руководства! *"Мы — спасители. Так история, судьба распорядилась: мы спасли цивилизацию от нацизма"*. И сверхзадача тут — заткнуть рот загранице, что проедает плешь со своей демократией: *"не нас надо учить, а перед нами нужно преклоняться за нашу победу"*.

На самом деле с коричневой чумой боролись совсем другие. Им, миллионам погибших, и горстке доживших до наших дней седых ветеранов, — низкий поклон. А вот нынешние власти если и отличились, то совсем на другой войне — против демократии, независимой прессы, предпринимательской инициативы... Так что каждому свои лавры. Не грех бы и тут внять совету российского друга — отделить мух от котлет. Право, не стоит нынешним начальникам рядиться в парадный мундир 45-го года — это мундир с чужого плеча. И не надо за счет ветеранов заполучать себе индульгенцию. У истории к каждому отдельный счет.

*("Белорусские новости".)*

ВІНШУЕМ!

## У Полацку будуць піць піва з арыгінальных куфляў «Народнай волі»

Мы неяк пісалі: пераможцам конкурсу **"1+..."** будуць уручаны незвычайныя прызы. У тым, што словы рэдакцыі не разышліся са справамі, 11 мая пераканаўся палачанін Уладзімір Яцкевіч. У гэты дзень ён атрымаў не толькі асабістае віншаванне галоўнага рэдактара "Народнай волі" Іосіфа Сярэдзіча, але і арыгінальны кошык з не менш арыгінальнымі куфлямі для піва. А каб Уладзімір Антонавіч мог адразу выкарыстаць іх па прызначэнні, яму непасрэдна на кватэру была дастаўлена скрынка (20 бутэлек) янтарнага піва.

Дэгустацыя прайшла паспяхова. Па-мастацку аздобленыя керамічныя куфлі вытрымалі пяціразовую нагрузку. Прызёр і яго жонка засталіся задаволеныя падарункам рэдакцыі.

"Народная воля" жадае лаўрэату далейшых поспехаў у асабістым жыцці і на ніве прапаганды незалежнай прэсы. Не менш арыгінальныя прызы будуць уручаны ў бліжэйшы час іншым пераможцам конкурсу **"1+..."**.

**Валерый ШЧУКІН.**



**На здымку:** *Уладзімір Яцкевіч — актыўны прыхільнік "Народнай волі".*

## Прыхільнікі Зянона Пазьняка б'юць у званы

10 мая ў Мінску адбыўся чарговы Сойм Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ. Быў заслуханы даклад Зянона Пазьняка, старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ. З дакладам выступіў таксама сп. Юры Беленькі, выконваючы абавязкі старшыні партыі ў Беларусі, выступілі сябры Сойму з шэрагу рэгіёнаў краіны. Былі абмеркаваныя дзеянні супраць расійскай агрэсіі ў Беларусі, арганізацыйныя пытанні, разгледжана сітуацыя ў Курапатах, дзе ўлады пачалі новы наступ на нацыянальную святыню. Быў прыняты Зварот да грамадскіх арганізацый і партый "Нельга дапусціць рэферэндуму аб анексіі".

**Прэс-служба Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ.**

## Нельга дапусціць рэферэндуму аб анексіі

### Зварот да грамадскіх арганізацый і партый

Лукашэнка і Масква падрыхтавалі так званы канстытуцыйны акт і выбіраюць час, калі зручней вынесці яго на "рэферэндум" беларусам.

Газета "Советская Белоруссия" (№67 за 10.04.2003 г., "Союз") тлустым шрыфтам падае, што "конституционный акт одобрен союзным Совмином". Лукашэнка ў сваім "пасланні" недвухсэнсоўна гаворыць: "Праект Канстытуцыйнага акта прадстаўлены сумеснай беларуска-расійскай камісіяй на разгляд прэзідэнтаў... Ён можа быць вынесены на шырокае абмеркаванне і пасля дапрацоўкі з улікам заўваг будзе прапанаваны на рэферэндум... Прыняты на рэферэндуме Канстытуцыйны акт будзе дакументам вышэйшай юрыдычнай сілы, прававым фундаментам будаўніцтва паўнацэнных органаў Саюзнай дзяржавы". ("Звязда", №95 за 17.04.2003 г.)

Пацверджаннем непахіснасці Масквы ў імкненні акупаваць Беларусь ёсць тое, што з 1 ліпеня 2003 г. ўводзіцца ў абарачэнне безнаяўны расійскі рубель. Што здарыцца з беларускім рублём, лёгка спрагназаваць. Ён проста будзе хутка выціснуты з ужытку. Так, як гэта адбылося з нашай мовай пасля гвалтоўнага ўвядзення "дзвюхмоўя". Толькі выцісканне беларускага рубля адбудзецца значна хутчэй. Вядома, што расійскаму мафіёзнаму бізнесу дадзена каманда рыхтавацца да забору беларускай маёмасці і рэсурсаў. Калі рэферэндум адбудзецца, яны рынуцца на Беларусь, як чорная зграя.

Здзіўляе пасіўнае назіранне за разгортваннем падрыхтоўкі да "рэферэндуму" з боку беларускіх грамадскіх арганізацый, партый, ініцыятыў і плыняў, якія, па іх заявах, стаяць на пазіцыях незалежнасці Беларусі.

У гэтых умовах шэраг палітычных і грамадскіх арганізацый імітуюць палітычную дзейнасць, якая дае карысць Маскве і Лукашэнку: хаўрусіцца з наменклатурнымі прамаскоўскімі "апазіцыянерамі" і шукаць сярод іх "каштуніцу" невядома на якую пасаду, "рыхтуюцца да парламенцкіх выбараў", працуюць над стварэннем мізэрных рэзервацый беларускага асяродку, заклікаюць да "объединения всех демократических сил" і вядуць людзей у "балота". Канешне, пэўныя палітычныя дзеячы, палітычныя партыі і недзяржаўныя арганізацыі зноў могуць абдурыць з дапамогай так званых незалежных СМІ на нейкі перыяд заходніх грантадаўцаў і вырашыць такім чынам свае прагматычныя прыватныя інтарэсы. Але людзі, якія не маюць ідэалаў, павінны ведаць, што з заборам Беларусі маскоўскім кагэбізмам будзе знішчана ўсё, у тым ліку і "прагматыкі". Векавое правіла расійскай палітыкі, калі ў выпадку дасягнення мэты расійцы знішчаюць тых, хто з імі супрацоўнічаў, — гэтае правіла яны не адмянялі (і не адменяць).

Сітуацыя дыктуе неабходнасць для ўсіх беларусаў (для кожнага) адстойваць незалежнасць сваёй дзяржавы і салідарызавацца на грунце абароны незалежнасці Беларусі. Гэтая салідарнасць прадыктаваная агульнай пагрозай, стаіць вышэй усялякіх палітычных і сацыяльных падзеяў.

Задача палягае ў тым, каб шырокім фронтам усім беларускім арганізацыям дзейнічаць у адным кірунку, а не збівацца ў адну кучу. Нельга дапускаць, каб зноў, як гэта ўжо было, палітычныя авантурнікі стварылі "аб'яднаную апазіцыю", прымацавалі да яе "лідэра" і павялі на лукашэнкаўска-пуцінскі "рэферэндум" галасаваць супраць. Тым самым дапамаглі зрабіць яго "легітымным" (падобна, як удзел апазіцыйных партый у мясцовых "выбарах" 2003 года прывёў да прызнання лукашэнкаўскай "палаты" АБСЕ).

Заклікаем усе здаровыя беларускія нацыянальныя сілы распачаць актыўную працу па супрацьдзеянні прадажнаму "рэферэндуму". У гэтым наша адказнасць за лёс Беларусі.

Мы бачым канструктыўны беларускі шлях ў стварэнні ўласнага пазітыўнага дзеяння. Беларусам трэба засяродзіцца на патрабаванні і падрыхтоўцы неадкладнага правядзення новых прэзідэнцкіх выбараў пад міжнародным пратэктаратам ААН.

У рэчышчы супраціўлення планам анексіі на парадку дня стаіць пытанне аб стварэнні Грамадскага Беларускага Урада і Грамадскага Беларускага Парламента.

Будзьма ж гатовыя падтрымаць незалежнасць і абараніць нашу дзяржаву Беларусь!

**10 траўня 2003 г.**

**Кансерватыўна-Хрысціянская партыя — БНФ.**

**Ад рэдакцыі**
*Як бачым, Кансерватыўна-Хрысціянская партыя — БНФ заняла прынцыповую пазіцыю ў дачыненні да пытання аб магчымым правядзенні лукашэнкаўскай уладай чарговага рэферэндуму. "Народная воля" гатова прадставіць свае старонкі для выкладання сваіх пазіцый іншым партыям, розным грамадскім структурам, чытачам газеты.*

ПРИЕХАЛИ!

## «Кепка» в Минске

**Завтра, 14 мая, белорусскую столицу навестят с однодневным визитом члены правительства российской столицы во главе с мэром города Юрием Лужковым. Гости, как сообщает пресс-служба МИД Беларуси, примут участие в заседании президиума Совета министров Беларуси, встретятся с А. Лукашенко и премьер-министром Геннадием Новицким.**

*"В ходе заседания Президиума Совмина, — сообщается на сайте МИД, — намечено проанализировать состояние сотрудничества Беларуси с Москвой, выработать основные направления его развития, утвердить целевые задания для обеспечения роста белорусского экспорта в Москву. Правительство страны рассчитывает, что увеличение товарооборота составит не менее 20 процентов. Среди регионов РФ Москва является главным торговым партнером Беларуси, в 2002 году товарооборот между российской столицей и Республикой Беларусь увеличился на 11,8 процента и достиг 3,6 млрд. долларов".*

Программой визита запланирована встреча Юрия Лужкова с воинами-пограничниками, ветеранами Великой Отечественной войны и военнослужащими Минского гарнизона.

**Алена ДАШКЕВИЧ.**

## «Дзень Капусты»

*Дзень дзяржаўнага сцяга і дзяржаўнага герба гродзенскія ўлады адзначылі традыцыйным мітынгам на цэнтральнай плошчы горада. Удзел у мітынгу ўзялі таксама каля 20 сяброў незарэгістраванай маладзёжнай арганізацыі "Разам!", якія ладзілі з гэтай нагоды адмысловы перформанс пад назвай "Дзень Капусты".*

Дзеля забеспячэння масавасці мерапрыемства напярэдадні свята гарадскія навучальныя ўстановы атрымалі адпаведную "разнарадку". Дзякуючы гэтаму паслухаць выступленне гродзенскіх чыноўнікаў на чале са старшынём гарвыканкама Аляксандрам Антоненкам сабралося каля 3 тысяч школьнікаў і студэнтаў.

З'яўленне на плошчы сяброў незарэгістраванай маладзёжнай арганізацыі "Разам!" выклікала нервовую рэакцыю з боку міліцыі. Некаторых з сяброў арганізацыі пачалі нават абшукваць. Міліцыянты супакоіліся толькі тады, калі пабачылі транспарант з надпісам "Да здравствует госсимволика!". Двое сяброў з арганізацыі "Разам!" у майках з надпісам "Я пришел сюда добровольно" пачалі частаваць удзельнікаў мітынгу капустай. "Гэта нічога, што малая зарплата, гэта нічога, што растуць цэны, галоўнае — у нас сімволіка правільная", — казалі яны, частуючы ўдзельнікаў мітынгу. Большасць школьнікаў і настаўнікаў з гумарам ставіліся да акцыі і ахвотна спрабавалі прапанаваную ім капусту. Міліцыянты, якім таксама прапанавалі пачаставацца свежай агароднінай, ад пачастунку чамусьці адмовіліся.



"Высілкі гарадскіх улад арганізаваць усеагульны "адабрамс" для штучна прыдуманай сімволікі могуць выклікаць хіба што смех", — так патлумачыў "Народнай волі" сэнс акцыі Ілля Пячынін, адзін з сяброў арганізацыі "Разам!".

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

